© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР

Выданьне Арганізацыйнага камітэту Беларускага таварыства калекцыянераў ♦ № 1, 1990

## ЗВАРОТ да калекцыянераў Беларусі

Шаноўныя сябры! Сёньня, калі ідзе абуджэньне беларускага народа, адраджэньне беларускай культуры, прага народа да сваёй гісторыі, беларускія калекцыянеры не павінны стаяць убаку ад гэтых працэсаў. Нас само жыцьцё прымушае ўзяцца за адраджэньне даўніх традыцый калекцыяніраваньня на Беларусі. Вытокі нашага калекцыяніраваньня ляжаць яшчэ ў XII–XIУ стагоддзях. Пазьней калекцыяніраваньне на Беларусі набыло даволі шырокі размах. Найбольш буйныя зборы былі ў Нясьвіжы, у Шчорсах, Ружанах, Гародні і іншых месцах. Але ў Выніку бясконцых войнаў і зьнішчэньнем значнай часткі нашай інтэлігенцыі калекцыяніраваньне на Беларусі прыйшло ў заняпад. Ды і самі калекцыі былі разьцягнуты, як нашымі суседзямі, так і іншымі захопнікамі, што прыходзілі на нашу Бацькаўшчыну. Шмат чаго зь несьвіжскіх калекцыяў апынулася ў ленінградскім „Эрмітажы". У Маскве літаральна ў кожным гістарычным музеі, архіве ці бібліятэцы ёсьць калішнія беларускія зборы.

Зь утварэньнем БССР на Беларусі ў 20-я гады быў вельмі пашыраны краязнаўчы рух. Гэта вяло да стварэньня новых калекцый, як дзяржаўных так і прыватных. Зьявілася надзея, што ўрэшце беларусы змогуць стаць гаспадарамі на сваёй зямлі.

Але не, зноў пачалося вынішчэньне лепшых сыноў Беларусі, вынішчэньне нашай культуры. Гінулі людзі, гінулі музеі. Бясьледна зьнікалі нацыянальныя каштоўнасьці Беларусі сярод якіх і крыж Эфрасіньні Полацкай. Які сёння стаў сымболем нашых каштоўнасьцей і сымболем нашых страт.

Пасьля другой сусьветнай вайны калекцыяніраваньне на Беларусі, нажаль, набыла ўсе тыя адмоўныя рысы, што існуюць у нашым грамадстве. Сучасны беларускіх калекцыянер – гэта як правіла гараджанін, які ня ведае ні сваёй гісторыі, ні сваёй мовы, з яскрава выражаным зацікаўленьнем да чужога, перш-наперш расейскага. Зборы такіх калекцыянераў, як правіла, нічога агульнага ня маюць з гісторыей і культурай Беларусі. І вось сьвядома ці не, але яны са свайго боку, зьяўляюцца прадаўжальнікамі афіцыйнай палітыцы русафікацыі. Зараз у нас сотні самых розных калекцыянераў, але толькі адзінкі зь іх захапляюцца беларусікай. Напрыклад, сярод нумізматаў самая папулярная тэма гэта „Манеты Расеі". І нашы срэбныя талеры зь лёхкасьцю меняюцца на медныя маскоўскія пятакі. Ня сакрэт, што шмат хто зь „калекцыянераў" Беларусі беспакаранна гандлюе гістарычнымі каштоўнасьцямі нашага народа. І плывуць за межы Беларусі нашы манетныя скарбы, абразы, кніжкі. Працягваецца вынішчэньне беларускай культуры – толькі ўжо рукамі „калекцыянераў" Беларусі.

Вось чаму насьпела пытаньне аб утварэньні Беларускага таварыства калекцыянераў. Гэта таварыства павінна аб'яднаць у сваіх радах тых калекцыянераў, якім сапраўды не абыякавы лёс Беларускага Адраджэньня. Праз таварыства можна будзе весьці культурна-асьветніцкую працу, як сярод насельніцтва так і сярод калекцыянераў Беларусі. Таварыства будзе ладзіць выставы, спрыяць выданьню самай рознай літаратуры па калекцыяніраваньню, дапамагаць у пошуку і абмене патрэбных матэрыялаў.

Мы заклікаем ўсіх сьвядомых калекцыянераў падтрымаць нашу ідэю па стварэньню Беларускага таварыства калекцыянераў і паведаміць пра сябе ў рэдакцыю.

Жыве Беларусь!

А. СЯРОЖКІН,
І. ВАШКЕВІЧ,
У. ЦЯРОХІН,
У. РАДАШКЕВІЧ,
А. САВІЦКІ.







ЮБІЛЕЙНАЯ ПАШТОЎКА

## Маркі Слуцкага паўстання

„Адна з яркіх старонак барацьбы беларускага народа за дзяржаўную незалежнасьць – Слуцкае паўстаньне. Доўгі час у афіцыйнай гісторыяграфіі яно замоўчвалася ці падавалася, як лакальны контррэвалюцыйны нацыяналістычны мяцеж. Але ж у апошнія гады затрашчэлі стэрэатыпы і з-пад накінутай схемы паказалася жывое аблічча нашай няпростай, часта трагічнай гісторыі". Так пачынае свой артыкул „Слуцкае паўстаньне" А. Бяляцкій зьмешчаны ў 2-гім нумары газэты „Грунвальд". Нядоўга трымалася „Слуцкая рэспубліка", бо была здушана рэгулярным войскам Чырвонай арміі. Але ў народзе жыве памяць аб паўстаньні. На Захадзе беражліва захоўваюцца ўсе дакументы і матэрыялы, якія маюць дачыненьне да гэтых падзей. Зусім нядаўна стала вядома, што існуюць і паштовыя маркі „Слуцкага паўстаньня". Паўстанцы для сваіх патрэб выкарастоўвалі старыя запасы расейскіх марак, але на іх рабілі наддрукоўку „Надзвычайная Рада Случчыны". Надпіс гэты на марках рабіўся лацінскай. Гэта ўсё, што на сёньняшні дзень нам вядома пра маркі Слуцкага паўстаньня. Мы зь задавальненем прымім любую дадатковую інфармацыю. А можа нават у каго захаваліся і самі маркі, ці хаця бы іх выявы.

А. С.

## Нам на зайздрасьць

*У гэтым годзе ўпершыню надаралася наведаць Літву. Быў у Вільні і ў некатарых іншых местах і мястэчках. Да гэтага, вядома, шмат чытаў і чуў пра Літву й літоўцах. Але, як кажуць, лепш адзін раз убачыць, чым семь разоў пачуць. Многае, натуральна, бачылася ў параўнаньні. Вялікую фору далі яны нам і па ўзроўню жыцьця, культуры вытворчасьці, агульнай культуры. Але асабліва кідаецца ў вочы іх сапраўдная любоў, павага, беражлівае стаўленьне да ўсяго свайго нацыянальнага: гісторыі, культуры, помнікам архітэктуры й мовы. Нават ў мястэчках зьдзіўляе ўвага да такіх, здавалася бы, дробязяў, як паштоўкі з выявай мясцовых краявідаў, значкам і вымпелаў гэтых местаў, нацыянальным календарам.*

*Прыехаўшы ў Воршу, я спецыяльна яшчэ раз зьвярнуў увагу на гэтае ў нашых крамах й ятках. Нічога: ані паштовак, ані значкоў, ані календароў. . . Не знайшоў нават ні воднага простага календара з пазначэньнем назваў месяцоў па-беларуску.*

*Пажадана, каб у будучым нашы мясцовыя ўлады й народныя дэпутаты места зьвярталі больш увагі і да гэтых дробязяў. У жыцьці ўсё узаемазьвязана і з такіх дробязяў нараджаецца павага да сябе, да свайго места, рэспублікі, народу.*

*Мікола НОВІКАЎ,*
*м. Ворша.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





БУДЫНАК БЫЛОЙ АРШАНСКАЙ ПОШТЫ (не захаваўся). Фотаздымак 1915 года.



*Рэдкая расейская манета, знойдзеная на месцы былога аршанскага Куцеінскага манастыра.*

*Манастыр заснаваны ў 1631 годзе й існаваў да 1924 года. У 1956 г. будынкі манастыра зруйнаваны ваякоўцамі. Навуковыя дасьледваньні і археалагічныя раскопы тут не рабіліся. Зараз на гэтым месцы 20-я школа м. Воршы.*



# ЗАБАРОНЕНАЯ ТЭМА

Амаль кожны дзень у нашым грамадстве прыадчыняецца заслона над той або іншай, раней забароненай, тэмай. Сапраўды, сёньня грамадства становіцца ўсё больш і больш адкрытым. Сродкі масавай інфармацыі закранаюць такія тэмы і зьявы, пра якія раней нават думаць было забаронена.

Да гэтага часу сярод калекцыянераў адной з такіх забароненых тэм, зьяўляецца зьбіраньне савецкіх узнагарод. Зьбіраньне савецкіх ардэноў і медалёў караецца нават у крымінальным парадку.

Але зьява гэта існуе і нават пашыраецца. Да шматлікіх афіцыйных каталёгаў, савецкіх узнагарод далучаецца і так званы „самвыдат". Да нас трапіў прэйскурант на савецкія ордэны і медалі, першую частку якога мы і прапануем вашай увазе. У гэтай частцы падаюцца амаль усе савецкія ордэны і іх кошт па цэнах так званага „чорнага рынку":

ордэн Леніна – 3000 рублёў;
Кастрычніцкай рэвалюцыі – 500 рублёў;
Працоўнага Чырвонага Сцяга – 150 рублёў;
Дружбы народаў – 200 рублёў;
„Знак Пашаны" – 100 рублёў;

Працоўнай Славы І ступені – 300 рублёў;
ІІ ступені – 150 рублёў;
ІІІ ступені – 100 рублёў;

Чырвонага Сьцяга – 150 рублёў;
Суворава І ступені – 5000 рублёў;
ІІ ступені – 4000 рублёў;
ІІІ ступені – 2000 рублёў;

Ушакова І ступені – 7000 рублёў;
ІІ ступені – 4000 рублёў;
Кутузава І ступені – 3000 рублёў;
ІІ ступені – 2500 рублёў;
ІІІ ступені – 1500 рублёў;
Нахімава І ступені – 5000 рублёў;
ІІ ступені – 2000 рублёў;

Багдана Хмяльніцкага І ступені – 1500 рублёў;
ІІ ступені – 1000 рублёў;
ІІІ ступені – 500 рублёў;

Аляксандра Неўскага – 500 рублёў;
Айчыннай вайны І ступені – 300 рублёў;
ІІ ступені – 100 рублёў;

Чырвонай Зоркі – 50 рублёў;
Славы І ступені – 3000 рублёў;
ІІ ступені – 150 рублёў;
ІІІ ступені – 50 рублёў;

„Маці-гераіня" – 1500 рублёў;

„Мацярынская Слава" – І ступені – 100 рублёў;
ІІ ступені – 50 рублёў;
ІІІ ступені – 30 рублёў.

# Калекцыі беларусікі на Захадзе

Калекцыяваньне беларусікі вельмі пашырана на Захадзе. Найбольш відавочна зьбіраюцца паштовыя маркі, пры гэтым сярод філатэлістаў-беларусістаў не толькі беларусы. Прыкладам найбольш артыкулаў аб беларускіх марках у знаным часопісе „I stamp reviw" пішуць якраз не беларусы, а амерыканцы ды ангельцы. Дарэчы, артыкулы аб беларускіх марках зьяўляюцца ў англамоўных выданьнях увесь час. Свaім часам у саракавых і пяцідзесятых гадах у Заходняй Нямеччыне было нават дзейнае таварыства беларускіх філатэлістаў.

Услед за маркамі найбольш папулярная форма калекцыяваньня гэта кніжкі. Не бібліятэкі, а зьбіраньне кніжак на нейкую адну тэму. Прыкладам, папулярныя калекцыі кніжак аб беларускіх стравах, беларускіх касьцюмах. Шмат хто займаецца зьбіраньнем беларускіх паштовак, ды паштовак з беларускімі ланшафтамі, гарадамі. Бывае, што беларускія паштоўкі выстаўляюцца ў амэрыканскіх бібліятэках. Пару год таму Нью-Ёркская публічная бібліятэка мела выстаўку паштовак, на якой была асобная сэкцыя „Беларускія гарады на паштоўках". Трэба тут адзначыць, што на Захадзе было выдадзена шмат паштовак з краявідамі Беларусі, з гербамі беларускіх гарадоў, а таксама паштовак прысьвечаных нацыянальным гістарычным падзеям.

Вельмі папулярныя сярод беларусаў у Злучаных Штатах Амэрыкі калекцыі лялек, апранутых у беларускія народныя касьцюмы з розных рэгіёнаў Беларусі. Лялькі гэтыя часта складаюць асноўную частку беларускіх этнаграфічных калекцыяў. У Амэрыцы ёсьць калекцыянеры, якія маглі б ладзіць свае беларускія этнаграфічныя выстаўкі. У калекцыях гэтых, апрача лялек, бывае шмат ткацкіх паясоў, посьцілак ды асабліва багатыя зборы вышываных ручнікоў. Ёсьць таксама ў беларускіх этнаграфічных калекцыях ладна вырабаў са скуры, саломы ды таксама вырабаў керамікі. Цікавы той факт, што ў Злучаных Штатах ёсьць некалькі аматараў ганчароў, якія вырабляюць керамічныя вырабы з беларускімі арнамэнтамі: кубкі, талеркі, вазы, попельніцы і іншыя.

Пашырана на Захадзе зьбіраньне беларускіх ювелірных вырабаў, прыкладам, пярсьцёнкі ці запанкі з „Пагонямі", прышпелькі з беларускім арнамэнтам для гальштукаў, а таксама звычайныя значкі – „Пагоні", зьбіраньнем якіх шмат хто займаецца. Ёсьць таксама калекцыі беларускіх пячатак з „Пагоняй", а таксама паштовак або афіцыйных блянак, аздобленых „Пагоняй". Некаторыя калекцыянеры ў Злучаных Штатах зьбіраюць беларускія медалі, ардэны, значкі розных беларускіх эміграцкіх арганізацыяў.

У Амерыцы вельмі папулярны від калекцыяў гэта калекцыі матэрыялаў выбарчых кампаніяў, прыкладам, былі вельмі пашыраны жэтоны з надпісамі „Беларусы за Ніксана", „Беларусы за Рэйгана і Буша", „Беларусы за Тэфта" ды іншыя жэтоны.

Шмат хто з беларусаў мае калекцыі розных наклеек, у тым ліку наклейкі на аўтамабілі з „Пагонямі". Аднак найбольш хіба было зроблена беларускіх сувэнірных вырабаў з тэкстылю. Дзесяткі розных кашуляў з „Пагонямі" і з надпісамі „Беларусь", гальштукі, розныя ўкладкі з народным арнамэнтам, аздобленыя стужкі ў адзнаку розных юбілеяў ды іншыя сувэніры і калектарскія вырабы.

Апошнім часам у Амэрыцы пашырана зьбіраньне аўтамабільных пласьцінак з нумарнымі знакамі. Аўтамабільныя нумары могуць складацца толькі з літараў, якія ўласнік аўтамабіля сам сабе выбірае. На аўтастрадах Амэрыкі можна пабачыць шмат цікавых аўтамабільных пласьцінак з рознымі надпісамі. Сябры танцавальнага гуртка амэрыканска-беларускай моладзі „Васілёк" ужо маюць на адной аўтамашыне аўтамабільны знак з надпісам „Васілёк".

Вітаўт ЗУБКОЎСКІ.



*Ворша – старажытны горад, які хутка будзе адзначаць сваё 925-годдзе. Але ў гэтым старажытным горадзе ад старой Воршы мала што засталося. Расейскія вялікадзяржаўнікі і іх верныя пасьлядоўнікі па зьнішчэньню беларушчыны, чыноўнікі сталінска-брэжнеўскай хэўры зрабілі сваю справу. Былі зьнішчаны дзесяткі выдатных помнікаў беларускага дойлідства. Ворша пазбавілася свайго гістарычнага твару.*

*Сёньня толькі старыя паштоўкі нагадваюць пра гістарычную забудову Воршы. Можна сьмела сказаць, што аршанскімі помнікамі архітэктуры ганарыўся б любы эўрапейскі горад.*

*Найбольш буйная калекцыя аршанскіх паштовак знаходзіцца ў мясцовым краязнаўчым музэі. Ёсць яны і ў калекцыі Вячкі Целеша з Рыгі. Мы дзякуем спадару Алесю ШЫНКЕВІЧУ за фотакопіі старых аршанскіх паштовак, адну з якіх вы бачыце тут, а вывы астатніх будуць у наступных нумарах газэты.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# 425-я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)*

Лік паштовых марак у савецкай філятэліі, якія адлюстроўваюць важнейшыя падзеі зь жыцьця рэспублікі, проста мізэрна. Дык справа тут ня толькі ў паштовых марках, прысьвечаных пэўнаму юбілею, якіх у Беларусі кожны год можна налічыць некалькі дзясяткаў. Справа ў тым, што апрача юбілеяў у нас ёсьць шмат тэмаў, якім можна было б прысьвяціць паштовыя маркі. Чаму б, напрыклад, не паказаць на паштовых марках такія помнікі беларускай архітэктуры, як Сафійскі сабор, сымбаль сілы і культуры Полацкага княства. Або выдатны твор архітэктурнага мастацтва 12 ст. Спаса-Эфрасінеўскую царкву ў Полацку. Або цудоўны помнік старажытнага беларускага дойлідства Каложскую царкву ў Гародні і прыгожы помнік архітэктурнага стылю барока Фарны касцёл у Нясьвіжы. Чаму не папулізараваць усё гэта праз выпуск паштовых марак.

Справа ў тым, што ў выпуску марак Масква практыкавала да гэтага часу такую ж самую дыскрамінацыйную палітыку, як і ва ўсіх іншых галінах нацыянальнага жыцьця. Каб упэўніцца ў гэтым, трэба паглядзець, як была адлюстравана на паштовых марках культура і гісторыя старэйшага брата. Надзвычайна там сустрэнеш паэтаў і пісьменьнікаў, скульптараў і біёлягаў, геёлягаў і мастакоў. Словам усё, што было вартым і патрэбным для адлюстраваньня.

Падсумоўваючы ўсё раней сказанае, мусім сьцвердзіць, што справа беларускай тэматыцы на савецкіх паштовых марках стаіць вельмі дрэнна, а беларускай нацыянальнай яшчэ горш. Аднак гэта не азначае, што яна павінна заставацца такой і далей.

Беларусь павінна мець права на выпуск сваіх уласных паштовых марак. Як бы там не было, а афіцыйна БССР уважаецца сувярэннай рэспублікай, належыць да арганізацыі ААН, Сусьветнага паштовага Саюзу і іншых міжнародных арганізацый. Мае свой урад, парламент і нават Міністэрства сувязі. Але ў выніку дыскрымінацыйнай палітыкі маскоўскага цэнтру і абыякавасьці сваіх чыноўнікаў-янычараў у галіне філятэліі Беларусь стаіць горш за былыя афрыканскія калёніі.

Язэп БАРЭЙКА.

# Ці будзе ?

*Прайшло больш за 70 год пасьля аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці ў форме Беларускай ССР. Аднак жа ў рэспубліцы да гэтага часу няма музэя гісторыі Беларусі. Так званы Дзяржаўны музэй БССР па структуры ды ўзроўню адлюстраваньня гісторыі Беларусі цягне ў лепшым выпадку на звычайны раённы краязнаўчы музэй, дзе кожнай твары па пары. У ім фрагмэнты беларускай гісторыі зшытыя белымі ніткамі па схэме 30–50 гадоў. Ды і сам аб'ём гістарычнай часткі экспазіцыі для рэспублікі да сьмешнага малы. Прадстаўленыя экспанаты фрагмэнтарна ўзнаўляюць мінулае, павярхоўна, з тэндэнцыйным клясавым ўхілам. Уся гісторыя з палеаліту да канца 18 стагодзьдзя, як у пракрустава ложа ўціснутая ў адну невялікую залу. Надзвычай цікавы пэрыяд знаходжаньня беларусаў у складзе Вялікага княства Літоўскага паказаны з імперскіх пазіцыяў дарэвалюцыйнай дваранскай гісторыяграфіі. Не знайшлі адлюстраваньня або толькі ўскосна ўпамінаюцца многія падзеі, войны, бітвы, якія мелі вызначальнае значэньне для Беларусі.*

*Мне асабіста даводзілася суправаджаць гасьцей нашай рэспублікі ў гэты музэй і было вельмі сорамна за яго. Таму лічу такое становішча ненармальным. Рэспубліка павінна ўжо даўно мець адмысловы гістарычны музэй, створаны й абсталяваны на сучасным навуковым узроўні, з экспазыцыяй бяз „белых плямаў". Нельга дапусьціць, каб гісторыя па-ранейшаму была пакорлівай служкай ілжывых канцэпцыяў і поглядаў. Народ павінен ведаць сваё мінулае, такім, якім яно было.*

*Разьмясьціць музэй можна ў Пішчалаўскім замку, помніку архітэктуры 19 стагодзьдзя (1825 г.), які знаходзіцца ў самым цэнтры Менску на вуліцы Валадарскага. Сучаснае выкарастаньне замка Пішчалы не ўпрыгожвае горад.*

*У будынку цяперашняга музэя на вуліцы Карла Маркса можна зрабіць асобны музэй прыроды. Экспанаты аддзела прыроды зараз цясняцца ў паўпадвальным памяшканьні.*

*Цяжка не дааценіць выхаваўчы і асьветны патэнцыял музэяў, іх уплыў на разьвіцьцё навукі. Жыцьцё паказала – забыцьцё гістарычнай спадчыны абарачваецца незваротнымі стратамі, вядзе да нацыянальнага нігілізму і выраджэньня народа, як асобнай этнічнае супольнасьці.*

*Уладзімір ЦЯРОХІН.*

# Беларусу — яго марку

*БЕЛАРУСУ – ЯГО МАРКУ*

*Скажыце, дзе можна набыць беларускія маркі? Як часта яны выдаюцца?*



*М. БЛІЗНЯЦОЎ. Быхаў.*

І вось, набраўшыся цярпеньня, мы рушылі на пошукі марак. Але дарэмна, абышлі некалькі кіёскаў, заглядалі ў кніжныя магазіны – марак там не было. Нарэшце, звярнуліся ў Міністэрства сувязі БССР.

Вось што паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення сувязі рэспублікі Георгій Яўгенавіч ІГНАТОВІЧ:

–Міністэрства сувязі рэспублікі, як вы разумееце, марак не выпускае. Мы толькі робім заказы ў МС СССР. Заказы даём да юбілеяў беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, дзеячаў навукі. Да такіх, як 500-годдзе з дня нараджэння Скарыны, юбілеі Я. Купалы, Я. Коласа.

–А колькі марак вы заказалі ў гэтым годзе і чаму яны прысвечаны?

–У гэтым годзе мы атрымаем дзве маркі. Першая з серыі „Сталіцы саюзных рэспублік" – з відарысам плошчы Перамогі або Дома ўрада, другая – з серыі „Помнікі культуры і гісторыі" – Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасініцкага манастыра. Колькасць іх прыкладна будзе раўняцца сямі мільёнам. Выпускаюцца яны як на беларускай, так і на рускай мовах. Разыходзяцца па розных кутках Саюза, у тым ліку, зразумела, і ў Беларусі. Гэта, на мой погляд, неабходна для пазнавання культур, гісторыі іншых народаў.

–Скажыце, ці дапамагаюць вам грамадскія, творчыя аб'яднанні ў выбары асартыменту марак на заказ?

–Так, дапамагаюць. Яны дасылаюць пажаданні, і лепшым з іх мы даём ход. Зразумела, усе просьбы выканаць не ў сілах. Ды і гандлёва-выдавецкі цэнтр „Марка" – адзіны на ўсю краіну. Гэта з'яўляецца і абмежаваннем для нас у колькасці і тыражу марак.

З вашага дазволу я заўважу, што зусім іншая справа з канвертамі, паштоўкамі. Кожны год мы даём 12–15 сюжэтаў не толькі па Мінску, але і абласцях.

*(„Чырвоная змена", №№54–55, 17 сакавіка 1990 года).*

## АБ'ЯВЫ

Набуду кнігі па гісторыі і краязнаўстве Беларусі на славянскіх мовах, выдадзеныя да 1939 г., „Большую энциклопедию" пад рэд. С. Н. Южакова, т. т. 13, 14, 22. Маю абменны фонд. Зьвяртацца на адрас: 220131, Менск-131, п/с 229, Уладзіміру.

ХХХ

Аргкамітэт Беларускага таварыства калекцыянераў дапамагае ў набыцьці калекцыйнага матэрыялу беларусікі для калекцыянераў, што жывуць за межамі Бацькаўшчыны.

ХХХ

Усе жадаючыя зьмясьціць свае аб'явы аб дапамозе ў набыцьці тых ці іншых матэрыялаў для сваіх калекцый, зьвяртайцеся на адрас рэдакцыі.









Индекс предприятия связи | и адрес отправителя



Пишите индекс предприятия связи места назначения

ЮБІЛЕЙНЫ КАНВЭРТ.

**«Беларускі калекцыянер»—** ворган Арганізацыйнага камітэту Беларускага таварыства калекцыянераў

*АДРАС ДЛЯ ЛІСТАВАННЯ: 211030, места Ворша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16. Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.*

ОТ. 3. 3945.

*Кошт 40 кап.*

*Наклад 990 экз.*

*Нумар рыхтавалі А. СЯРОЖКІН і Ул. ЦЯРОХІН.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013